# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 3 (98) 1-9 лютага 2015 г.

## З апазыцыянэра зрабілі «дармаеда»

**Леанід Аўтухоў, актывіст партыі БНФ, атрымаў ліст з Гарадоцкага цэнтру занятасьці. Яму паведамілі, што здымаюць яго з уліку і больш ня будуць займацца ягоным працаўладкаваньнем.**

**Спадар Аўтухоў шакаваны: два тыдні таму ён наведаў цэнтар занятасьці, яму прапанавалі некалькі вакансіяў, якія не падышлі з розных прычынаў, і ўжо быў прызначаны дзень наступнага візыту**:

*«Атрымаў загад прыйсьці 12 лютага — гэта мой абавязак зьяўляцца ў цэнтар занятасьці штомесяц, каб скарыстацца наяўнасьцю новых вакансіяў, калі яны ёсьць. Мінулым разам я хадзіў 14 студзеня. Мне прапанавалі працу кіроўцы ў Віцебску з акладам 2 мільёны, тут я адмовіўся адразу. І яшчэ дзьве вакансіі ў мясцовым лесапрамгасе — працу электрыка і мэханіка. Ні адно, ні другое — не мая прафэсія. Ну, гадоў 25 таму я працаваў пэўны час электрыкам, але цяпер іншае абсталяваньне, і я нават не вазьмуся. Да таго ж у мяне ёсьць новая, запатрабаваная спэцыяльнасьць — кіроўцы катэгорыі „Е“, для машын з прычэпамі. Няўжо ва ўсім Гарадоцкім раёне няма такой працы?»*

Леанід Аўтухоў згадвае, што ў тую самую ўстанову — у гарадоцкую філію лесапрамгасу — яго ўжо накіроўвалі працаваць кіроўцам. Але езьдзіць, як высьветлілася, там няма на чым — няма спраўных машын. Машыну трэба рамантаваць, а ў той час, калі транспартны сродак не працуе, кіроўца атрымлівае толькі мінімальны заробак. На такія ўмовы Леанід Аўтухоў існці адмовіўся. І распавёў незалежным СМІ, што на Гарадоччыне ў цэнтры занятасьці прапануюць вакансіі, якіх фактычна няма.



Леанід Аўтухоў

Гэтага, на думку апазыцыянэра, яму і не даравалі:

*«Было дужа незадаволенае кіраўніцтва лесапрамгасу, бо „праславілася“ на ўвесь сьвет. Дарэчы, у іх зноў зьявілася вакансія кіроўцы, хоць дзейных машын па-ранейшаму няма. Але мне быць кіроўцам больш не прапануюць. Мінулым разам у цэнтры занятасьці я патлумачыў, чаму не магу працаваць ні электрыкам, ні мэханікам. Гэта ж не мая спэцыяльнасьць! У адказ атрымаў ліст, што двойчы адмовіўся ад працаўладкаваньня, і таму мяне здымаюць з уліку».*

Ліст з цэнтру занятасьці датаваны 23 студзеня, але ў ім сказана, што з уліку Леаніда Аўтухова зьнялі яшчэ 14 студзеня, адразу пасьля ягонага апошняга візыту ва ўстанову. Наступным крокам, мяркуе апазыцыянэр, можа стацца спагнаньне грошай за курсы кіроўцаў, якія ён наведваў па накіраваньні цэнтру занятасьці.

**Спадар Аўтухоў лічыць, што «дармаедам» яго зрабілі невыпадкова — што гэта працяг таго самага ціску, які распачаўся 6 гадоў таму. Пасьля ўдзелу ў выбарах у Палату прадстаўнікоў у 2008 годзе яго скарацілі зь мясцовай структуры ЖКГ. І з тае пары ён ніяк ня можа ўладкавацца на працу. Спачатку ў цэнтры занятасьці яму давалі накіраваньні, але адмаўлялі ўжо на прадпрыемствах, як толькі даведваліся, што ён апазыцыйны актывіст. Потым пачаліся такія прапановы, што прыняць іх проста немагчыма. Аднак Леанід Аўтухоў ня хоча здавацца: ён зьбіраецца давесьці цэнтру занятасьці, што з уліку яго зьнялі беспадстаўна.**

# Ян Дзяржаўцаў: Стасункі ўлады з апазыцыяй нагадваюць фарс, і фарс гэты надта зацягнуўся

**Сябра Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў паскардзіўся на чыноўнікаў адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску ў аблвыканкам і гарадзкую пракуратуру. На думку скаржніка, чыноўнікі груба парушылі закон, таму ён прасіў прыцягнуць іх да адказнасьці. Аблвыканкам пакінуў скаргу Дзяржаўцава без разгляду па сутнасьці, а пракуратура паспрабавала абмежавацца фармальнай адпіскай.**



Ян Дзяржаўцаў

Ян Дзяржаўцаў і ягоны аднапартыец Пётра Сарапеня падавалі на імя старшыні адміністрацыі Першамайскага раёну Віцебску заяву аб правядзеньні пікету 7 лістапада 2014 году. Партыйныя актывісты падчас пікетаваньня меркавалі праінфармаваць віцебчукоў пра наступствы бальшавіцкага кастрычніцкага перавароту і неабходнасьць забароны камуністычнай партыі і яе ідэалёгіі на тэрыторыі Беларусі. Заява была пададзеная ў належныя тэрміны і з захаваньнем усіх неабходных фармальнасьцяў. Аднак нягледзячы на гэта, правядзеньне пікету было забароненае.

На наступны дзень пасьля атрыманьня адказу №15-16/Д-8 з раённай адміністрацыі аб забароне заяўленага пікету, Ян Дзяржаўцаў падаў скаргу ў Віцебскі абласны выканаўчы камітэт. У скарзе спадар Ян зьвярнуў увагу на "грубыя парушэньні дзейнага заканадаўства з боку адказных работнікаў адміністрацыі Першамайскага раёну г. Віцебску", у выніку чаго былі парушаныя правы і законныя інтарэсы грамадзяніна.

Па-першае, адказ ня быў падпісаны намесьніцай кіраўніка адміністрацыі Вольгай Гурчанкай, а значыць ня меў юрыдычнай сілы. А па-другое, адказ быў дасланы заяўніку са спазьненьнем як мінімум на суткі, што зьяўляецца парушэньнем артыкулу 6 Закону "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь". У заяве ў аблвыканкам Ян Дзяржаўцаў папрасіў "прыцягнуць да адказнасьці службовых асобаў, вінаватых у парушэньні дзеючага заканадаўства".

У лісьце зь Віцебскага абласнога выканаўчага камітэту, які быў падпісаны кіраўніком справаў Аляксеем Мацюшкам, паведамлялася, што "ў адпаведнасьці з абзацам трэцім пункту 1 артыкулу 15 Закону Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2011 году "Аб зваротах грамадзянаў і юрыдычных асобаў" скарга пакінутая без разгляду", бо яна "падлягае разгляду ў судовым парадку".

Такі адказ не задаволіў заяўніка, і ён падаў яшчэ адну скаргу — у пракуратуру Віцебску. У сваёй чарговай скарзе Ян Дзяржаўцаў прасіў прымяніць да чыноўніцы Гурчанкі меры пракурорскага рэагаваньня, бо тая парушыла дзейнае заканадаўства і ягоныя законныя інтарэсы і правы.

30 сьнежня 2014 году спадар Ян атрымаў адказ за подпісам пракурора Віцебску старшага дарадцы юстыцыі Юрыя Раманоўскага: "Пракуратура гораду правяла праверку законнасьці дзейнасьці службовых асобаў адміністрацыі Першамайскага раёну". У выніку праверкі пракуратурай "прынятыя меры пракурорскага рэагаваньня" з патрабаваньнем прыцягнуць да адказнасьці службовых асобаў, якія парушылі заканадаўства.

**На думку Яна Дзяржаўцава, такі адказ пракуратуры зьяўляецца фармальнай адпіскай: "З адказу так і незразумела, ці пакараў вінаватых супрацоўнікаў старшыня адміністрацыі раёну, або заплюшчыў вочы на іхныя парушэньні. Мая думка такая: крумкач крумкачу вока ня выдзеўбе, бо законнай улады на Беларусі няма".**

Калі гэты матэрыял рыхтаваўся да публікацыі, стала вядома пра разьвіцьцё гісторыі. Напрыканцы студзеня 2015 году Ян Дзяржаўцаў нарэшце змог дамагчыся вуснага адказу ад пракурора Юліі Лазарэнкі, якая непасрэдна займалася справай: "Пісьмова яна не адказала. І толькі пасьля таго, як я абабіў ўсе парогі пракуратуры, яна паведаміла мне, што галоўнага спэцыяліста аддзелу па ідэалягічнай працы, культуры і па справах моладзі Першамайскай адміністрацыі Паўла Галавача, так бы мовіць, ласкава папрасілі, каб ён выбраў сабе пакараньне за тое, што ня даў гэтым апазыцыянэрам адказу на іхную заяву аб правядзеньні пікету. А як выбіраць не было з чаго, — кіраўнік адміністрацыі прапанаваў зрабіць Галавачу толькі заўвагу, — на што той ласкава пагадзіўся і сапсаваў сваю рэпутацыю гэткім "жахлівым пакараньнем". Стасункі ўлады з апазыцыяй нагадваюць фарс, і фарс гэты надта зацягнуўся".

# На ААТ «Полацак-Шклովалакно» скарачаюць сацыяльныя выплаты

**На прадпрыемствах полацкага рэгіёну скарачаюць выдаткі на сацыяльныя выплаты, пачынаюцца затрымкі ў выплаце заробкаў. На ААТ «Полацак-Шкловалакно» 19 студзеня ў сувязі са складаным фінансавым становішчам у два разы паменшылі выдаткі на культурна-масавыя і спартовыя мерапрыемствы для работнікаў, прыпыненая выплата сацыяльнага пакету.**

На «Шкловалакне» створаная камісія ў новым складзе для зьмены калектыўнай дамовы, у якой няма прадстаўніка рабочых ад Свабоднага прафсаюзу. Першыя зьмены калектыўнай дамовы ўжо ўнесены 19 студзеня — наконт скарачэньня ўдвая выдаткаў на культурна-масавыя і спартовыя мерапрыемствы для работнікаў.

У працоўных курылках «Шкловалакна» загаварылі пра апавяшчэньне ад адміністрацыі наконт прыпыненьня дзеяньня калектыўнай дамовы па выплаце матэрыяльнай дапамогі на аздараўленьне да працоўнага адпачынку (на сёньня гэта складае каля 2-4-х мільёнаў рублёў, у залежнасьці ад стажу) і выхадной дапамогі пры выхадзе работніка на пэнсію (пры стажы 20 гадоў складае 5 сярэдніх заробкаў працаўніка). Адміністрацыя заводу заяўляе пра адсутнасьць сродкаў на выплаты паводле калектыўнай дамовы і абяцае аднавіць выплаты пры атрыманьні прыбытку.

**Калектыўная дамова «Шкловалакна» гарантуе сацыяльныя выплаты толькі «пры наяўнасьці сродкаў». Пры такой фармулёўцы нават не патрабуецца зьмяняць калектыўную дамову. Рабочыя, якія сыходзяць цяпер у адпачынак, не атрымліваюць матэрыяльнай дапамогі на аздараўленьне. Застаецца толькі спадзявацца, што гэтыя сродкі выплацяць ў будучыні, калі будзе прыбытак у заводу. Аднак індэксаваць на працэнт інфляцыі гэтыя сродкі ніхто не абяцае. «Адна рэч − цяпер 4 мільёны (каля 250 даляраў ЗША), іншая рэч − праз паўгода. Колькі яны тады будуць каштаваць?» − кажуць рабочыя ў курылках.**

Тым ня менш начальнік аддзелу кадраў і сацыяльнага разьвіцьця заводу Юры Краўчанка заяўляе: «Матывацыяй для працаўладкаваньня на прадпрыемства служыць стабільная заработная плата (сярэдняя зарплата па заводзе больш за 6 мільёнаў), сацыяльны пакет, прафэсійная пенсія, інтэрнаты для іншагародніх работнікаў».

**Але рабочыя кажуць, што заробкі апошнім часам зьнізіліся, купіць на іх можна ўсё менш і менш. Выплата сацыяльнага пакету прыпыненая. Ад прафэсійных пенсіяў за шкодныя ўмовы працы маладыя рабочыя адмаўляюцца на карысьць павелічэньня заробку на 10%, але сёньня. Ну а месца ў інтэрнаце − гэта зусім ня асобная пакой, гэта жыцьцё ў калектыве.**

Апошнім месяцам павялічылася колькасьць зваротаў у Свабодны прафсаюз ад працоўных розных прадпрыемстваў Полацкага рэгіёну. Працоўныя выказваюць сваю незадаволенасьць затрымкамі выплаты заробкаў, несправядлівасьцю пры налічэньні пэнсіяў, нізкім узроўнем аплаты працы.

# Палітвязень Ігар Аліневіч зьмешчаны ў штрафны ізалятар



Ігар Аліневіч

**Ігар Аліневіч зноў кінуты ў ШЫЗА. Гэта, як мінімум, пятае пакараньне карцэрам за апошнія паўгода, што ён правёў у калёніі "Віцьба". Пра тое, што Ігар Аліневіч зноў знаходзіцца ў ШЫЗА, паведаміла яго маці − Валянціна Аліневіч.**

*"Ад Ігара на працягу месяцу няма ні лістоў, ні тэлефанаваньняў, таму я сёньня наважылася сама патэлефанаваць дзяжурнаму па калёніі. Імаверна, я засьпела яго зьнянацку, і ён адразу паведаміў мне, што Ігар знаходзіцца ў ШЫЗА. Нават не рабіў выгляду, што ня ведае, хто гэта. Звычайна на такія званкі адразу не адказваюць, просяцьператэлефанаваць праз пэўны час, абяцаюць высьветліць"*, — сказала яна.

Пра афіцыйныя прычыны чарговага пакараньня Ігара Аліневіча маці нічога не вядома.

Актывіст анархісцкага руху Ігар Аліневіч асуджаны на 8 гадоў зьняволеньня нібыта "за хуліганскія дзеяньні што да афіцыйных будынкаў". Сваёй віны палітвязень не прызнаў. Раней ён адбываў пакараньне ў калёніі ў Наваполацку, якая ўважалася за самую дрэнную паводле экалёгіі. На пачатку году была прынятая пастанова аб яе расфармаваньні. У сярэдзіне ліпеня стала вядома, што Ігар Аліневіч этапаваны ў калёнію "Віцьба". А ўжо праз невялікі час на палітвязьня пачаўся моцны ціск і ён правёў цэлы месяц у ШЫЗА.

Ігар Аліневіч прызнаны палітвязьнем міжнароднай і беларускай праваабаронча супольнасьцю.

# Віцебскай грамадзкасьці не ўдаецца паўплываць на сутнасьць рашэньняў мясцовай улады

Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі "Маніторынгу ацэнкі ўдзелу НДА і грамадзкасьці ў працэсе прыняцьця рашэньняў на мясцовым узроўні". Вынікамі маніторынгу віцебскія актывісты падзяліліся з журналістамі і праваабаронцамі.



Хрыстафор Жаляпаў, Леанід Гаравы

**Леанід Гаравы**, **экспэрт віцебскага грамадзкага аб'яднаньня "Самакіраваньне і грамадзтва"**, распавёў, што маніторынг цягам апошніх 6-ці месяцаў 2014 году праводзіўся ў Віцебску, а таксама ў Аршанскім і Пастаўскім раёнах. Матэрыяламі для аналізу былі афіцыйныя сайты мясцовых органаў улады і дакумэнты, якія тычацца спробаў узаемадзеяньня актывістаў НДА зь мясцовымі ўладамі.

*"Мясцовыя ўлады Віцебску, Аршаншчыны і Пастаўшчыны, здаецца, ня надта імкнуцца да супрацоўніцтва з грамадзянамі і прадстаўнікамі НДА. Выканаўчымі камітэтамі і мясцовымі саветамі не прадугледжаныя прававыя мэханізмы, якія можна было б скарыстаць для агалошваньня нейкай праблемы. Напрыклад, грамадзяне і НДА ня могуць зрабіць так, каб нейкае вострае пытаньне было вынесенае на паседжаньне органу ўлады, або паўплываць на сутнасьць рашэньня па нейкім пытаньні".*

Паводле Леаніда Гаравога, улады настолькі аддаленыя ад простых грамадзянаў, што нават ня лічаць патрэбным знаёміць апошніх са сваімі рашэньнямі. Хаця права на атрыманьне праўдзівай і вычарпальнай інфармацыі мае кожны грамадзянін Беларусі, нават афіцыйныя сайты не сьпяшаюцца паведамляць, што адбываецца "ва ўладзе". Прыкладам, на сайце Віцебскага гарвыканкаму за ўвесь 2014 год апублікаваныя ўсяго два рашэньні гэтага органу ўлады, і абодва датаваныя першым паўгодзьдзем. На сайце аршанскага райвыканкаму існуе разьдзел "Афіцыйнае апублікаваньне", адмыслова прадугледжаны для публікацыі рашэньняў. Аднак ён пусты. Што да Аршанскага райсавету, то на інтэрнэт-старонцы ў адпаведным разьдзеле прадстаўленае адзінае рашэньне — і тое за 2012 год. Нібыта ў 2014 годзе дэўтаты не працавалі і нічога не вырашалі. На сайце Пастаўскага райвыканкаму таксама апублікаванае ўсяго адно рашэньне, датаванае 2014 годам.

Атрымліваецца, што органы ўлады існуюць самі па сабе і не зацікаўленыя ў супрацоўніцтве зь мясцовымі жыхарамі. Але і мясцовыя жыхары ня могуць праявіць ініцыятыву, каб зьвярнуць на сябе ўвагу ўладаў. Адным з самых паказальным фактаў зьяўляецца немагчымасьць скарыстацца правам на правядзеньне масавых мерапрыемстваў, лічыць **віцебскі каардынатар руху "За свабоду" Хрыстафор Жаляпаў**:

*"У дзяржавы і на мясцовым узроўні намінальна існуюць мэханізмы ўплыву на мясцовыя ўлады праз выказваньне грамадзкай думкі — напрыклад, падчас пікетаў, сходаў, іншых масавых акцыяў. Але на практыцы гэтым правам і ўдзельнікі НДА, і шараговыя грамадзяне скарыстацца ня могуць: паводле рашэньняў Віцебскага гарвыканкаму, Аршанскага гарвыканкаму, Пастаўскага райвыканкаму створаныя такія ўмовы, што заяўкі на мерапрыемствы не задавальняюць. Патрабуюць папярэдніх дамоваў на абслугоўваньне міліцыяй, урачамі, камунальнымі службамі, а тыя, у сваю чаргу, ад заключэньня дамоваў ухіляюцца. Паўплываць на ўлады, каб яны зьмянілі свае рашэньні, зрабіўшы іх выканальнымі, таксама не ўдаецца: што да рашэньня Віцебскага гарвыканкаму наконт арганізацыі і правядзеньня масавых акцыяў, нам заўжды адказваюць, што яно бездакорнае ў юрыдычным сэнсе, і таму зьмены ў ім не патрэбныя".*

Удзельнікі маніторынгу прыйшлі да несуцяшальных высноваў. У мясцовых уладаў няма зафіксаваных заканадаўствам абавязкаў даваць справаздачу насельніцтву, кансультавацца зь мясцовымі жыхарамі наконт наступных крокаў у палітыцы, арганізоўваць абмеркаваньні надзённых пытаньняў і гэтак далей. А жаданьня грамадзянаў зьвярнуць на сябе ўвагу ўладаў далёка не дастаткова, каб гэта ўвасобілася ў жыцьцё: з 2009 году ў Віцебску і ў рэгіёнах выканкамы не дазволілі ніводнага масавага мерапрыемства, калі ініцыятыва сыходзіла ад грамадзкіх актывістаў. І ўсе спробы рэалізаваць свае права на публічнае выказваньне меркаваньняў сканчваліся судовымі пакараньнямі за правядзеньне несанкцыянаваных масавых акцыяў.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://dyjalog.info і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.